ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»

**Асвятленне парламенцкіх выбараў 2012 г. у беларускіх СМІ**

Бюлетэнь №3

*(2 – 15 верасня 2012 г.)*

Маніторынг мае на мэце:

- *ацаніць, наколькі поўна, усебакова і ў адпаведнасці з прынцыпамі журналісцкай этыкі ды міжнародна прызнанымі стандартамі беларускія медыя здольныя асвятляць выбарчы працэс;*
- *прыцягнуць увагу журналісцкай супольнасці краіны да таго, што неперадузятае і поўнае інфармаванне выбарцаў пра электаральны працэс, а таксама пра палітычныя і грамадскія погляды кандыдатаў і іх прыхільнікаў – непасрэдны абавязак прафесійных медыя;*
- *прааналізаваць уплыў медыя на электаральны выбар.*

Маніторынг ажыццяўляецца на падставе 17 беларускіх СМІ, дзяржаўных і недзяржаўных, электронных і друкаваных, агульнанацыянальных і рэгіянальных[1]. Аналіз зместу медыя базуецца як на якасных, так і колькасных паказчыках, г. зн. – на ацэнцы манеры рэпрэзентацыі суб’ектаў выбарчага працэсу і падліку плошчы/часу, адведзеных выбарчай тэматыцы ў, адпаведна, друкаваных і электронных медыя.

У азначаны перыяд маніторынгу кандыдаты звярнуліся да выбарцаў са сваімі праграмамі ў друкаваных СМІ, а таксама адбыліся тэлевізійныя ды радыйныя выступы і дэбаты. Кандыдаты завяршылі сваю агітацыйную кампанію ў медыя.

**Асноўныя вынікі і высновы**

Нягледзячы на тое, што азначаны перыяд фармальна з’яўляецца найбольш актыўнай фазай выбарчай кампаніі, дзяржаўныя медыя не забяспечылі належнай інфармацыйнай падтрымкі і не паспрыялі таму, каб як мага большая колькасць выбарцаў пазнаёмілася з выступамі кандыдатаў.

Як і раней, маніторынгаваныя дзяржаўныя медыя не анансавалі радыйныя і тэлевізійныя выступы і ўдзел у дэбатах канкрэтных кандыдатаў, не падавалі прозвішчаў, ніяк не акцэнтавалі ўвагу выбарцаў на іхняй партыйнай прыналежнасці. А абмяжоўваліся адно ўказаннем нумару выбарчай акругі і датай эфіру (гл:, напрыклад, http://www.tvr.by/rus/raspisanie-debaty.asp).

[1] ***Электронныя медыя*** *– Беларусь 1 (навінная праграма “Панарама”); АНТ (навінная праграма “Наши новости”); Беларусь 1 (тыднёвая аналітычная праграма “В центре внимания”); Нацыянальнае радыё (1 праграма “Радыёфакт”); “ТРК “Гомель” – “Навіны Рэгіёна”; “Гомель FM” (“Навіны”); ТРК “Магілёў”(”Навіны Магілёў”); Абласное радыё “Навіны” (Магілёў).* ***Інтэрнэт-рэсурсы*** *–* www.naviny.by, www.belta.by. ***Друкаваныя СМІ*** *– “Беларусь сегодня”, “Народная воля”, “7 дней”, “Наша ніва”, “Комсомольская правда в Белоруссии” (таўстушка), “Гомельская праўда”, “Могилёвская правда”.*

А праграмы перадач тых тэлевізійных каналаў, дзе мелі адбыцца выступы і дэбаты, пазначалі адведзены час не як “Выступы кандыдатаў у дэпутаты” ці “Дэбаты”, а як *“Выборы-2012”.* Да таго ж запісы выступаў кандыдатаў і дэбатаў так і не з’явіліся на вэб-старонках адпаведных каналаў. Гэткім чынам, праз такое асвятленне агітацыйнай кампаніі дзяржаўныя медыя імкнуліся не толькі маргіналізаваць галоўных дзеючых асобаў, кандыдатаў, але і адсланіць выбарцаў ад знаёмства з перадвыбарчымі праграмамі ды ўдзелу ў іх абмеркаванні.

Названыя медыя працягвалі цэнзураваць выступы кандыдатаў і дэбаты, тэхнічная магчымасць чаго была створана праз умову іх выхаду ў эфір у запісе. Паводле старшыні Аб’яднанай грамадзянскай партыі, у эфіры не прагучалі 32 звароты кандыдатаў, а газеты не надрукавалі 11 перадвыбарчых праграм прадстаўнікоў гэтай партыі (http://naviny.by/rubrics/opinion/2012/09/14/ic_articles_410_179201/). Факт цэнзуры прызнала і старшыня ЦВК: “*Чаму яны зьнятыя? Таму што пры дадзеных дэбатах ажыцьцяўлялася агітацыя за байкот выбараў*” (http://www.svaboda.org/content/article/24704611.html).

Разам з тым на маніторынгаваных тэлевізійных і радыёканалах дэбатам папярэднічала рэпрэзентацыя адпаведнай выбарчай акругі, у якой дзейнасць мясцовай улады падавалася ў надзвычай пазітыўным святле. Гэткім чынам, дэманстраваныя відэаролікі і радыйныя прэзентацыі фактычна “працавалі” на карысць праўладнага кандыдата, удзельніка дэбатаў.

Невыразнае асвятленне агітацыйнай кампаніі, а таксама цэнзураванне выступаў кандыдатаў было фактычна скіраванае на змяншэнне напалу перадвыбарчай барацьбы ды дэпалітызацыю выбараў. Сімптаматычна, што з 13 выбарчых акругаў, якія налічваюцца ў Магілёўскай вобласці, у дэбатах па тэлебачанні ўзялі ўдзел кандыдаты з 4 акругаў, а ў дэбатах на радыё – толькі з 3.

Што да іншых суб’ектаў выбарчага працэсу, то галоўную ўвагу дзяржаўныя медыя працягвалі надаваць *ЦВК*, якой значна саступаюць усе астатнія суб’екты выбарчага працэсу. Так, напрыклад, навінная праграма *“Панарама”* (тэлеканал *Беларусь 1*) адвяла ёй 40.3% часу, *заходнім назіральнікам* – 18,2%, *назіральнікам з краін СНД* – амаль 14%, *неперсаніфікаванаму кандыдату* – амаль 6%. Астатнія суб’екты атрымалі ад 5% да 0,1% часу. Гэткая ж тэндэнцыя характэрная і для астатніх маніторынгаваных агульнанацыянальных дзяржаўных медыа, як электронных, так і друкаваных. У рэгіянальных электронных медыя галоўныя дзеючыя асобы выбарчага працэсу – *неперсаніфікаваны кандыдат, заходнія назіральнікі і назіральнікі з краін СНД. ЦВК* у гэтых медыя саступае сваё месца *мясцовым уладам* і *акруговым камісіям*.

Такое асвятленне выбарчага працэсу практычна цалкам адпавядае ролі медыя, вызначанай дзяржаўнымі ідэолагамі. Вось словы намесніцы начальніка ўпраўлення ідэалагічнай працы Магілёўскага аблвыканкама спн. Алены Дзіваковай:

*“Роль средств массовой информации в период избирательной кампании довольно значительная. Направлена она на информирование общества об основных нормах избирательного законодательства, о правах, обязанностях избирателей и кандидатов в депутаты. Также информирование избирателей о том, какие усилия предпринимаются органами, обеспечивающими выборы, о создании надлежащих условий для выдвижения кандидатов, голосования, подсчёта голосов, то есть защита избирательских прав граждан Республики Беларусь. Средства массовой информации выступают также главной силой, формирующей общественное мнение, и особая роль отводится*

*избирательным кодексам средствами массовой информации в период проведения предвыборной агитации и пропаганды”* (*абласное радыё ТРК “Магілёў”, “Навіны”* ад 08.08.2012).

Як можна бачыць, выкладзеная ідэалагічная канцэпцыя зусім не прадугледжвае шырокае азнаямленне выбарцаў з праграмамі кандыдатаў, у тым ліку і праз абмеркаванне гэтых праграм у дзяржаўных СМІ.

Выбарчая тэматыка па-ранейшаму заставалася маргінальнай у навінных праграмах. Узгаданая ўжо *“Панарама”* традыцыйна адвяла тэме выбараў часу меней, чым надвор’ю і спорту (адпаведна – 1,88%, 2,82% і 14,7%). То бок, калі параўнаць адносны час, адведзены ў гэты перыяд выбарчай тэматыцы з папярэднім, дык ён нават крыху скараціўся, і гэта нягледзячы на тое, што выбарчая кампанія фармальна ўступіла ў сваю самую актыўную фазу. Маргінальны характар асвятлення выбарчай кампаніі характэрны і для іншых маніторынгаваных дзяржаўных медыя.

Сярод недзяржаўных медыя найбольшую ўвагу выбарчай тэматыцы надавала інтэрнэт-выданне *naviny.by.* Да таго ж параўнальна з папярэднім перыядам яно асвятляла дзейнасць большай колькасці суб’ектаў выбарчай кампаніі (26 і 31 адпаведна). Папяровыя недзяржаўныя выданні падалі значна вузейшую панараму выбарчага працэсу: *“Народная воля”* пісала альбо ўзгадвала пра 8 дзеючых асобаў выбарчага працэсу,*“Наша ніва”* – пра 6, а газета *“Комсомольская правда в Белоруссии” (КП “таўстушка”)* – пра 5. Першыя дзве газеты крытычна паставіліся да дзейнасці ўлады, а *КП* асвятляла ўсіх суб’ектаў выключна нейтральна.

Гэткім чынам, недзяржаўныя газеты хоць і болей за аналагічныя дзяржаўныя выданні пісалі пра выбары, аднак істотна саступалі navina’м by у рэпрэзентацыі агульнай карціны выбарчага працэсу.

Агульная характарыстыка маніторынгаванага перыяду – практычна татальная адсутнасць у медыя меркаванняў выбарцаў датычна праграм кандыдатаў ды іхняга стаўлення да сацыяльных, эканамічных і палітычных праблем беларускага грамадства.

# BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**BELTA.BY**

03.09 - 15.09.2012

**Адзінка вымярэння - колькасьць знакаў**






# BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**“Советская Белоруссия: Беларусь сегодня”**

03.09 - 15.09.2012

**Адзінка вымярэння - см. кв.**






**BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012**

**Панарама**

03.09 - 15.09.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**






**BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012**

**Панарама**
03.09 - 15.09.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**



# BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

## ОНТ НАВІНЫ

03.09 - 15.09.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**






**BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012**

**ОНТ НАВІНЫ**

03.09 - 15.09.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**



**BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012**

**"Народная Воля"**

03.09 - 15.09.2012

**Адзінка вымярэння - см. кв.**






# BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**NAVINY.BY**

03.09 - 15.09.2012

**Адзінка вымярэння - колькасьць знакаў**






**BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012**

**“Могилёвская Правда”**

03.09-15.09.2012

**Адзінка вымярэння - см. кв.**






# BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**ТРК "Магілёў"/Абласное радыё "Навіны"**
03.09 - 15.09.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**






**BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012**

**ТРК "Магілёў"/Абласное радыё "Навіны"**

03.09 - 15.09.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**

